№ 21 (45)
Лістапад 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Лідэр БНФ Вінцук ВЯЧОРКА (зьлева) сустракае намесьніка старшыні АГП Анатоля ЛЯБЕДЗЬКУ па выхадзе з турмы. *(Гутарку з Анатолем Лябедзькам чытайце на стар.3)*

# Зайздросьце, расіяне...

*Упаўнаважаны па правах чалавека Расіі Алег Міронаў застаўся задаволеным візітам у Беларусь і станам захаваньня правоў чалавека ў нашай краіне... Такога не чакаў нават Лукашэнка...*

Дзіўным быў гэты візіт... Здавалася б, галоўны афіцыйны праваабаронца сумежнай дзяржавы прыехаў у самы час. І мэта была зразумелая: "з першых рук" даведацца пра сітуацыю, што склалася з правамі чалавека ў нашай краіне. Прыехаў ён пасьля растыражаваных тэлеканаламі кадраў зьбіцьця дэманстрантаў на Маршы Свабоды, пасьля паведамленьняў пра сотні арыштаваных у Мінску, нарэшце, пасьля тлумачальна-апраўдальнага выступу Лукашэнкі ў Расійскай Думе. Ня мог ён ня ведаць пра вязьняў сумленьня, што ёсьць у Беларусі, і пра зьнікненьні вядомых палітыкаў... І што ж ён зрабіў першай справай? Так, сустрэўся з Лукашэнкам. А потым — з прызначаным Лукашэнкам старшынём Вярхоўнага суда і кіраўніком ніжняй палаты парламенту, выступіў перад студэнтамі і выкладчыкамі Белдзяржуніверсітэту...

І ўсё, і толькі. А вось жа сустрэчы ўпаўнаважанага па правах чалавека з уласна тымі, чые правы парушаюцца ў Беларусі, у "праграму" ягонага візіту ўключаныя не былі. Як і наведваньне беларускіх праваабарончых арганізацыяў, як і гутаркі з праваабаронцамі...

Аднак сваё меркаваньне пра стан захаваньня правоў чалавека Алег Міронаў займеў (дакладней, пэўна, ён меў яго яшчэ да прыезду ў Беларусь). Бо ў першы ж дзень ён заявіў, што становішча з правамі чалавека ў Беларусі нашмат лепшае, чым у Расіі, а "у сім-тым беларускае грамадзтва нават апераджае расійскае"...

Зайздросьце, расіяне, ганарыцеся беларусы... І сапраўды, нам ёсьць чым пахваліцца: скажам, міжнацыянальных канфліктаў і грамадзянскай вайны ў нас няма... Як і свабоды слова, мітынгаў, шэсьцяў, дэманстрацыяў і шмат чаго яшчэ...

Лукашэнка быў вельмі ўдзячны праваабаронцу-камуністу. Прапанаваў нават яму, пакуль у Беларусі ня зьявіцца свой упаўнаважаны па правах чалавека, заняць гэтую пасаду. З гэтай прапановаю, сказаў Лукашэнка, ён выступіць на бліжэйшым пасяджэньні Вышэйшае рады Саюза. Прыехалі, як кажуць.

Зрэшты, ведаючы пра нядаўнюю паездку Алега Міронава на Кубу, дзе ён таксама быў у захапленьні ад сітуацыі з правамі чалавека на "востраве Свабоды", ягоныя паводзіны ў Беларусі мала каго зьдзівілі.

**Андрэй НАЛІВА**

## Хроніка

***31 кастрычніка*** **падчас Дня памяці продкаў "Дзяды" ў Мінску на плошчы Якуба Коласа міліцыянты правялі затрыманьні грамадзянаў, якія зьбіраліся тут, каб разам пайсьці да Маскоўскіх могілкаў і ў Курапаты. Міліцыянты зацягвалі людзей з кветкамі ў машыны, адвозілі ад плошчы і пагражалі пасадзіць на трое сутак за краты, калі яны пойдуць на могілкі. Адзін з затрыманых, сябра БНФ, Алесь Шыпко расказаў: "Мяне пасадзілі ў міліцэйскую машыну для транспартаваньня зьняволеных. Разам са мною ў адсеку сядзела яшчэ пяць затрыманых. У машыне некалькі адсекаў і ўсе яны былі поўныя людзей. Адной жанчыне стала дрэнна. Яна пачала крычаць, што хворая на цукровы дыябет і ёй неабходна прыняць інсулін, інакш можа памерці. Міліцыянты ня выпускалі яе і толькі, калі жанчыне стала зусім дрэнна, яны выкінулі яе на асфальт. Нас трымалі ў аўтобусе 40 хвілінаў. Пасьля паўгадзіны вазілі па горадзе. Потым завезьлі ў Савецкі РАУС, дзе пратрымалі яшчэ гадзіну, матывуючы затрыманьне неабходнасьцю высьвятліць асобы. Пасьля з маіх словаў склалі тлумачальную запіску, далі падпісаць яе і адпусцілі мяне".**

***У кастрычніку*** **прадстаўнікі дэмакратычных грамадзкіх аб'яднаньняў Брэсцкай вобласьці выказалі рашучы пратэст дзяржаўнаму аб'яднаньню Беларусі і Расіі. Адпаведная заява была прынятая прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў вобласьці 2-й рэгіянальнай Асамблеі, якая прайшла ў Брэсьце. Аўтары заявы заклікалі ўсіх, хто "падзяляе прынцыпы свабоды і дэмакратыі, сказаць рашучае "не" спробе зьнішчыць Беларусь шляхам негвалтоўных формаў пратэсту.**

*(Працяг на стар.6-7)*

# Зварот

## паліtвязьня Міколы Статкевіча да грамадзянаў Беларусі, напісаны на 12 дзень галадоўкі ў СІЗА г.Мінска

**У гэтым сьвеце ўсё каштуе для нас столькі, колькі мы гатовыя заплаціць за яго — грашыма, працай, часам, асабістай свабодай, жыцьцём. Наш народ толькі тады ацэніць Свабоду, калі знойдуцца людзі, здольныя дорага заплоціць за яе. Хопіць слоў! Занадта часта мы бачылі, як тыя, хто казаў лепшыя словы пра ідэалы Свабоды, у час небясьпекі былі ня здатныя рызыкаваць нічым асабістым дзеля яе. Толькі прыклады барацьбы і ахвяраваньня спараджаюць новых барацьбітоў за Свабоду.**

**Беларускія патрыёты, якія 17-га кастрычніка выйшлі на Марш Свабоды, прайшлі праз міліцэйскія дубінкі, праз катаваньні ў амапаўскіх аўтобусах, праз жах лукашэнкаўскіх засьценкаў, дорага заплацілі за сваё імкненьне да Свабоды. Гэтым самым яны ўзвысілі каштоўнасьць Свабоды ў вачах сваіх суайчыньнікаў. Некалі беларускі народ з павагай і гонарам назаве імёны тых, хто стаў на шлях да Свабоды 17-га кастрычніка.**

**Шлях да Свабоды немагчымы без барацьбы, пакутаў і працы. Але мы і нават нашыя дзеці ніколі не пабачым Беларусь свабоднай і шчасьлівай краінай, калі цяпер, без усялякіх сумненьняў, цьвёрда і годна ня станем на гэты шлях.**



Мікола СТАТКЕВІЧ

# Змаганьне працягваецца...

***Арыштаваны пасьля Маршу Свабоды 17 кастрычніка лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікола Статкевіч быў вызвалены з СІЗА 31 кастрычніка пад падпіску аб нявыезьдзе. Падчас прэс-канферэнцыі, якая адбылася на наступны дзень пасьля вызваленьня з-за кратаў Валадаркі, Мікола СТАТКЕВІЧ паведаміў журналістам наступнае:***

"У СІЗА знаходзіцца 6 тысячаў чалавек. На мой погляд, 70-80 працэнтаў з іх можна адпускаць ужо зараз (там сядзяць за такія дробязі!).

У камеры СІЗА, у якой я знаходзіўся, было 16 чалавек на 10 месцаў. Людзі спалі па чарзе, але мне далі асобны ложак (неверагодная раскоша ў тых умовах), бо людзі, якія там сядзелі, з вялікай павагай ставіліся да мяне. Адміністрацыя ізалятару знаходзілася пад уціскам уладаў, хаця зьнешне не выяўляла варожасьці да мяне. Але былі ўскосныя спробы ціску праз сукамернікаў — іх трымалі па гадзіне ў "пенале" (памяшканьне метр на метр), а потым выклікалі і загадвалі пісаць заяву, што яны "не прымушалі мяне галадаць". Калі яны адмаўляліся (гэта ж лухта — чалавек прыйшоў сюды з намерам галадаць, і галадае), ім казалі "а ён паскардзіўся на вас". Але пасьля таго, як людзі вярнуліся ў камеры, яны сабраліся, абмеркавалі гэтую сітуацыю і паведамілі мне, што адміністрацыя хоча нацкаваць іх на мяне. Яны пыталіся ў мяне: ці не замінае мне іх кампанія, ці згодны я знаходзіцца ў гэтай камеры. Я адказаў: "У прынцыпе, усё нармальна!" Пасьля гэтага яны сказалі, што "яны мяне не аддадуць, будуць за мяне змагацца"... А праз тыдзень маёй галадоўкі сукамернікі ўжо прапаноўвалі абвясьціць галадоўку салідарнасьці са мной, "падняць увесь корпус".

Я быў пераведзены з гэтай камеры, прычым праз нейкае дзіўнае памяшканьне, якое нават карцэрам не назавеш, бо гэта нешта горшае. Па сутнасьці, былая прыбіральня... Мяне там гадзіны тры-чатыры трымалі, а потым перавялі ў камеру на два месцы, плошчай шэсьць квадратных метраў. Там быў жорсткі кантроль — кожныя пяць хвілінаў у вочка зазіралі. Што яны хацелі ўбачыць? Ці не памёр я, ці мо' нешта ем?

Гэта была ўжо мая другая галадоўка. Першую я трымаў у сьпецразмеркавальніку на Акрэсьціна. Тады мяне датэрмінова вызвалілі. Гэтым разам я быў настроены на вельмі доўгую галадоўку. Я лічыў, што адзіны шанец для мяне выйсьці на волю — гэта праз месяц паставіць улады перад выбарам, што рабіць, калі чалавек апынаецца на мяжы жыцьця і сьмерці: дазволіць яму памерці, па сутнасьці забіць яго, альбо даць яму свабоду.

Мяне палохалі прымусовым кармленьнем. На гэта я заявіў, што калі мне будзе зусім кепска, я напішу заяву, копію якой я аддам адвакату. Сэнс гэтай заявы будзе такі, што я буду супраціўляцца ўсялякім гвалтоўным метадам і гвалтоўнаму кармленьню, а калі ў выпадку гэтага супраціўленьня ў мяне спыніцца сэрца, то адказнасьць ускладзецца на тых, хто будзе ажыцьцяўляць прымусовыя дзеяньні. Такая заява падзейнічала на медыцынскі персанал. Усе размовы пра прымусовае кармленьне адразу спыніліся.

Абсалютна нечаканым для мяне было тое, што ў нядзелю, недзе на пачатку 22 гадзіны, мне сказалі зьбірацца з рэчамі, адвялі да дзяжурнага. Там былі людзі ў цывільным, урач. Мяне азнаёмілі са зьмяненьнем меры стрыманьня. Абгрунтаваньне было такое: "Сьледчы лічыць, што я не ўцяку да суда, ня буду хавацца..." Але я ведаю, што сьледчы так лічыў і раней.

Потым я меў размову з нейкім чалавекам у цывільным (як я зразумеў, гэта адзін з кіраўнікоў ізалятару), які сказаў, што ў 19 гадзінаў у нядзелю пракурор прыняў рашэньне зьмяніць меру стрыманьня. Ён спытаў, ці сапраўды я жыву за горадам у ваенным гарадку, і патэлефанаваў дахаты. Сказаў, каб мае дочкі былі на месцы, бо праз паўгадзіны "перададуць нешта ад бацькі". Пасадзілі мяне ў "хуткую дапамогу", прывезьлі дахаты, давялі да дзьвярэй і перадалі сям'і. Патлумачылі так: "Ведаеце, людзі людзі зьнікаюць. Таму, каб не было ніякіх праблемаў і пытаньняў, мы перадаем гэткім чынам".

Прычыны майго вызваленьня, я думаю, наступныя. У рэжыму не засталося іншага рэальнага выйсьця, акрамя перамоваў з Захадам і з апазіцыяй (мары Лукашэнкі пра шапку Манамаха ўжо адышлі на задні план). Да таго ж, пакуль я сядзеў, адбыўся чарговы абвал беларускага рубля, а, значыць, патрэбныя інвестыцыі ў эканоміку. Набліжаецца саміт АБСЕ ў Стамбуле. Салідарнасьць праявілі міжнародныя арганізацыі, якія аказалі жорсткі ціск на Лукашэнку. Я ведаю, што і нашая партыя рыхтавала кампанію за маё вызваленьне, але пачацца яна павінна была пасьля 15-ці сутак галадоўкі. Гэта было маё распараджэньне. Я меў магчымасьць перадаць яго з-за кратаў. Я вельмі ўсьцешаны тым, што вызваленыя і іншыя ўдзельнікі падзеяў 17 кастрычніка. Гэта атрымалася як ланцуговая рэакцыя.

Падчас акцыі я рабіў усё магчымае, каб прадухіліць сутыкненьні дэманстрантаў з амапаўцамі. Мне ўдалося ўгаварыць людзей пайсьці назад. Паверце, гэта было вельмі цяжка, я не чакаў такога, бо там былі сотні маладых людзей, гатовых ісьці на ўсё. За апошнія некалькі гадоў я ўпершыню бачыў такую рашучасьць да змаганьня.

Улада ў паніцы ад гэтай акцыі. Грамадзтва ад пасіўнай незадаволенасьці ўжо гатовае пераходзіць да актыўнага пратэсту. Напачатку мне не ўдалося прадухіліць сутыкненьні, аднак, калі людзі пачалі адыходзіць, амапаўцы ўдарылі ім у сьпіну... Маладыя людзі, якія пачалі кідаць камяні, ураталі ўсіх астатніх — далі магчымасьць адысьці. Грэх іх у нечым абвінавачваць. Гэта проста нармальная чалавечая, годная мужчынская рэакцыя: калі б'юць безабароннага, мужчына абараняе сябе і сваіх блізкіх.

Але факт ёсьць факт: былі зьбітыя людзі. У гэтай сітуацыі я ня мог некуды зьязджаць, бо лічыў, што нясу маральную адказнасьць за тыя падзеі. Я папрасіў, каб мяне адвезьлі да офісу партыі і чакаў там арышту. Усё, што я мог зрабіць у той сітуацыі, гэта падзяліць лёс зьбітых і арыштаваных людзей, працягваць барацьбу, каб прыцягнуць увагу грамадзкасьці да гэтай праблемы..."

**Запісала Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

# Анатоль Лябедзька:
# "За Маршам Свабоды-2 будзе Марш Свабоды-3..."

***Дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га склікання Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА пасьля кастрычніцкага Маршу Свабоды стаў ня толькі адным з вязьняў сумленьня, але і аб'ектам міжнароднага скандалу. Падчас сустрэчы з Лукашэнкам сьпецдакладчык АБСЕ па Беларусі Адрыян Севярын прыраўняў арышт спадара Лябедзькі да ўласнага арышту. Менавіта статус Анатоля Лябедзькі як парламентарыя адмыслова запрошанага ў еўрапейскія структуры і паўплываў на нашую гутарку — у сэнсе яе непрацягласьці. Нашая размова доўжылася ўсяго 15 хвілінаў і адбывалася, калі Анатоль Лябедзька літаральна "сядзеў на валізах": адлятаў зь Мінску ў Амстэрдам, а пасьля – у Стамбул. На час інтэрв'ю шмат якія моманты, зьвязаныя з "беларускім пытаньнем" на стамбульскім саміце, былі яшчэ не зусім зразумелыя...***

***— Спадар Анатоль, скажыце, калі ласка, чаго Вы чакаеце ад саміту ў Стамбуле?***

— Перад самітам кіраўнікоў краінаў-членаў АБСЕ беларуская апазіцыя ставіла перад сабою тры задачы. Першая – стварыць ізаляцыйнае поле вакол былога прэзідэнта Лукашэнкі. Каб у яго быў мінімум (альбо наогул не было) сустрэчаў з кіраўнікамі іншых дзяржаў. Другая задача – каб шэраг кіраўнікоў дэмакратычных дзяржаваў у сваіх выступах абавязкова закранулі пытаньне аб Беларусі, і ў першую чаргу – аб становішчы з правамі чалавека ў нашай краіне. І, нарэшце, яшчэ адной мэтай была абавязковая прысутнасьць у Стамбуле дэлегацыі ад Вярхоўнага Савету. На сёньняшні дзень я магу канстатаваць, што гэтыя задачы будуць выкананыя.

***— Вядома, што на саміт у Стамбул едзе таксама і ўрадавая дэлегацыя ад Беларусі. Ці можна чакаць нейкіх папярэдніх перамоваў паміж апанентамі менавіта падчас саміту, скажам, за ягонымі рамкамі? Ці паспрыяе сумесная прысут-насьць на саміце хуткаму вызва-леньню палітвязьняў?***

— Па-першае, што датычыць паездкі групы Сазонава, то яна ня мае адносінаў да саміту, гэтаксама, як і дэлегацыя палітычных партыяў. Я выключаю тое, што ў Стамбуле пачнецца перамоўны працэс. Гэта немагчыма, нават зыходзячы з таго, што плануецца толькі адна сумесная сустрэча. Гэта будзе вячэра, на якую запрошаныя прадстаўнікі палітычных партыяў і дэлегацыя на чале з Сазонавым. Я таксама буду на гэтай вячэры, нягледзячы на тое, што ў адной асобе я зьяўляюся яшчэ і "дэлегацыяй Вярхоўнага Савету". Акрамя гэтай вячэры, усе астатнія сустрэчы афіцыйных прадстаўнікоў і апазіцыі будуць праходзіць асобна. На апошнім пасяджэньні Кансультатыўнага савету палітычных партыяў па маёй прапанове была прынятая заява, сэнс якой заключаецца ў наступным: перамоўны працэс можа пачацца ці ў Мінску, ці ў Стамбуле, ці ў Жабінцы, але — толькі калі будуць выкананыя папярэднія ўмовы, якія зафіксаваны ў сумольнай платформе палітычных партыяў. На сёньняшні дзень можна канстатаваць, што гэтыя перадумовы да саміту ў поўным аб'ёме ня будуць выкананыя. Гэта азначае, што прадстаўнікі палітычных партыяў ня могуць ісьці на перамоўны працэс.

***— На саміт Вы накіроўваецеся па нядаўнім 10-суткавым арышце пасьля Маршу Свабоды. Гэта было Вашае першае "наведаньне" сьпецпрыёмніка на Акрэсьціна, ці ня так? Што Вас там найбольш уразіла?***

— Крышку ня так, гэта была мая другая "адсідка". Мяне ўжо асуджалі раней на трое сутак... Уражаньні такія, што ў беларускай турме нічога не зьмянілася. Усё засталося, як было і дваццаць, і трыццаць гадоў таму. Дух таго часу захаваўся, парадкі таго часу захаваліся. Вось жа, да прыкладу, зьняволеных кормяць згодна з інструкцыяй, якая была прынятая ў... 1929 годзе. Гэта мне бачыцца сімвалічным. Ідзе жыцьцё, якое рэгулюецца многімі падзаконнымі актамі, інструкцыямі, прынятымі яшчэ ў сталінскі час. Натуральна, што нам патрэбна — і я пра гэта ўжо нават пісаў – праграма ачалавечваньня вось такіх сьпецпрыёмнікаў-разьмеркавальнікаў. Улады павінны нарэшце зразумець, што людзі, якія там сядзяць — гэта грамадзяне нашай краіны. Гэта асобы, а ня проста нейкія двуногія істоты, над якімі можна зьдзеквацца, якіх можна не лічыць за людзей... Я думаю, праграму па рэфармаваньні такіх установаў абавязкова трэба рэалізоўваць.

***— Вы адзін з першых палітыкаў, які сказаў, што пасьля Маршу Свабоды будзе Марш Свабоды-2 і Марш Свабоды-3. Якімі вы ўяўляеце сабе гэтыя акцыі?***

— Так, я ўпэўнены ў тым, што наступныя Маршы Свабоды ў Мінску пройдуць. Але Марш Свабоды-2 будзе добра падрыхтаваны, і ў гэтай акцыі возьме ўдзел яшчэ большая колькасьць людзей. Мяркую, што мы можам пра гэта гаварыць, маючы на ўвазе і наступны год. Мы даём шанец для тых людзей, якія сёньня фактычна валодаюць уладай у Беларусі. Калі яны ня пойдуць на рэальны перамоўны працэс, то наступны Марш Свабоды, мяркую, можа адбыцца ў лютым ці сакавіку. Што датычыць бліжэйшых планаў, то літаральна сёньня падалі заяўку на акцыю прадстаўнікі трох палітычных партыяў: Аб'яднанай грамадзянскай, Беларускага народнага фронту і Сацыял-дэмакратычнай. Пададзена заяўка на правядзеньне акцыі пратэсту 24 лістапада — гэта будзе чарговая гадавіна дзяржаўнага перавароту. Плануецца, што акцыя гэтым разам пройдзе ў форме масавага пікету ці дзесяткаў пікетаў адначасова — своеасаблівы жывы ланцуг пікетаў. Гэта будзе акцыя мірнага супрацьстаяньня ўладзе. Мы просім, каб людзі прыйшлі на яе са сьвечкамі.

***— Спадар Анатоль, як Вы ацэньваеце дамоўленасьць апазіцыі і ўладаў аб доступе апазіцыі да дзяржаўных СМІ?***

— Пакуль што ёсьць толькі адныя заявы, дэкларацыі. Паглядзім, як гэтая дамоўленасьць будзе выконвацца на самой справе. Журналісты зьвярталіся ўжо да спадара Дзьмітрыева, які вядзе праграму "Палітычныя дыялогі", з пытаньнем ці зьбіраецца ён запісваць у бліжэйшы час перадачу з маім удзелам ці з удзелам Статкевіча. Для яго гэта была абсалютная навіна, ён пра гэта нічога ня ведаў, хаця па тэлебачаньні ўжо робіцца анонс праграмы з удзелам апазіцыйных лідэраў!.. Думаю ўсё ж, што вялікая рэклама, якая робіцца дамоўленасьцям пра дазвол "выхаду" апазіцыі на дзяржаўныя СМІ, прывязана да саміту ў Стамбуле. Мне падаецца, што рэальна ацаніць кошт гэтых дамоўленасьцяў можна будзе толькі пасьля 19-20-га лістапада, калі згаданы саміт ужо скончыцца...

Гутарыла
Таццяна СЬНІТКО



## Уладзімір ЧАРНОЎ:

# "Гэта — фашызм..."

### Адкрыты ліст міністру ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнанту Ю. Л. Сівакову ад падпалкоўніка запасу У. С. Чарнова

Юры Леанідавіч!

Вы патрапілі ўжо ў навейшую гісторыю пакуль яшчэ незалежнай Рэспублікі Беларусь. Мажліва нават, Лукашэнка вас і "пацярпелых" міліцыянтаў узнагародзіць, але, выканаўшы злачынны загад і ўтварыўшы Крывавую Нядзелю — 17 КАСТРЫЧНІКА, я думаю, вы ўзялі на сваю душу вялікі грэх. Пройдзе няшмат часу і бацькі як пацярпелых удзельнікаў мітынгу, так і бацькі пацярпелых маладых міліцыянтаў вас праклянуць і, як Пінячэт, вы паўстанеце перад справядлівым судом.

У 1990 годзе, калі я быў камандзірам вайсковай часткі на Каўказе, у Кабардзіна-Балкарыі, мяне выклікаў прэзідэнт гэтай рэспублікі Валеры Мухамедавіч Кокаў і спытаў: "Ці будзеш ты выконваць загад з Масквы і разганяць мірныя дэманстрацыі, так, як рабілася гэта ў Тбілісі?" На гэта я адказаў: "Не, за час службы ў мяне зьявілася ў вашай рэспубліцы шмат сяброў і знаёмых. І яны могуць апынуцца ў шэрагах дэманстрантаў. Вось калі яны са зброяй у руках акружаць тэрыторыю, дзе дыслакуецца мая вайсковая частка і параняць хоць аднаго салдата, тады я аддам каманду адкрыць агонь..." Мітынгі працягваліся тады ўдзень і ўна-чы пры вогнішчах. Але ніхто за два тыдні ў Нальчыку не пацярпеў. Дык жа гэта для мяне, беларуса, быў чужы народ. Што ж вы робіце з нашым народам? Чаму вы гэтак нас ненавідзіце? Вы ж так доўга тут пражылі і праслужылі, пачынаючы з Баравухі-1? Няўжо ў канцы XX-га стагодзьдзя вы думаеце, што можна зьбіваць, калечыць людзей толькі за тое, што яны маюць адрозныя ад вашых уяўленьні пра сваю нацыянальную культуру, мову і ўладкаваньне сваёй будучыні? Ну ня хочам мы быць расійскай губерніяй, дык за гэта нас — у турму, зьбіваць і катаваць?

Дык навошта ж вы пайшлі на гэтую правакацыю? Адразу ж было зразумела, што нельга беларускі народ загнаць у рэзервацыю. Сёньня вы дазволіце зьбірацца людзям, нязгодным з палітыкай Лукашэнкі, на пляцоўцы для выгулу сабак, а заўтра, наогул, дазволіце зьбірацца толькі дзе-небудзь далёка ад Мінску. Не. Гэтага ня будзе!

Таму і пайшлі ўдзельнікі Маршу Свабоды па цэнтральнай вуліцы. І ішлі дэманстранты мірна, бяз зброі, камянёў і палак. За тыя 5 кіламетраў, якія яны прайшлі да месца правакацыі трыццацітысячнай калонаю, не было пашкоджана ні аднай вітрыны, ні аднаго шапіка, не падрапана ніводнай аўтамашыны. Вось жа, дайшлі б яны да плошчы Незалежнасьці, памітынгавалі б і разыйшліся.

Менавіта так было 21 ліпеня. Тады, дайшоўшы да ланцугу амапаўцаў каля МЗС, калона дэманстрантаў зьвярнула на Кастрычніцкую плошчу, памітынгавала і разышлася. Так было б і на гэты раз...

Калона зьвярнула ад міліцэйскага кардону і не пайшла па вул. Багдановіча. Потым калона не паддалася на правакацыю і не зьвярнула на плошчу Перамогі. Але вам патрэбная была слава ўціхамірніка народнага паўстаньня і вы сабралі каля 3000 узброеных да зубоў абучаных салдатаў, каб правучыць тых, хто думае інакш. Таму на вуліцы Першамайскай вы падрыхтавалі правакацыю, аказаўшы тым самым мядзьведжую паслугу Лукашэнку. (Вось гэта якраз беларускае тэлебачаньне і не паказвае). Калі ад асноўнай калоны было адрэзана каля 500 удзельнікаў Маршу аўтобусамі з АМАПам) і быў перакрыты мост праз раку Сьвіслач амапаўцамі са шчытамі, прагучала каманда: "Да бою!". Каманды захопу пачалі выхопліваць удзельнікаў Маршу і зьбіваць іх.

На нашую агульную бяду, у парку імя Горкага для Лукашэнкі рабілі новы ходнік да Лядовага палаца і там была складзеная штабелямі тратуарная плітка. Вось яна і стала абарончай зброяй дэманстрантаў. Вось гэтага вы і не прадугледзелі. Не апазіцыя ж нацягала і склала там плітку? Страшна падумаць, колькі было б ахвяраў з боку ўдзельнікаў Маршу, калі б Лукашэнка не любіў хакей, і не завезьлі б для ходніка плітку...

Акрамя таго, канстатую, што на сёньняшні дзень Лукашэнка, гэтаксама як Гітлер у 1937 годзе, разагнаў законны парламент, стварыў свой уласны "кішэнны" парламент і сваю сістэму бясьпекі, падобную да гестапа, пад назовам АМАП, дзеля вынішчэньня тых, хто думае інакш ды інтэлігенцыі. Прадстаўнікі гэтых сьпецпадразьдзяленьняў у зьверствах і катаваньнях у адносінах да свайго народу цалкам капіруюць гестапа. Мы, а гэта 62 чалавекі, усё гэта адчулі на сабе ноччу 18 кастрычніка. Канкрэтна, з нашай групай затрыманых у колькасьці 15 чалавек у Партызанскім РАУС абыходзіліся так.

У 6 гадзінаў раніцы ў памяшканьне Партызанскага РАУС, дзе мы знаходзіліся як затрыманыя ў парку імя Горкага да суда, уварвалася сьпецпадразьдзяленьне АМАПу з крыкам "Рукі за галаву! У аўтобус!". Нас пачалі зьбіваць кулакамі і дубінкамі, прапускаючы скрозь строй. Сярод нас былі дзьве дзяўчыны, аднак з імі абыходзіліся самым зьвярыным чынам. Паўсонных людзей зьбівалі па адным. Прычым білі ўсе 7 амапаўцаў адразу. Пасьля чаго ў праходзе аўтобуса усіх звалілі адзін на аднаго і наверх закінулі дзяўчат. Пры гэтым працягвалі біць па галовах. Хоць асабіста я заяўляў ім, што зьяўляюся журналістам газеты.

Амапаўцы плявалі, спрабавалі мачыцца і пагражалі мужчынаў "апусьціць" сваімі дубінкамі, а жанчынаў згвалтаваць. Калі ўнізе людзі пачалі задыхацца, крычалі, што зараз вывязуць у лес і закапаюць, як і ўсіх апазіцыянераў, як і ўсіх, хто супраць Лукашэнкі.

Пакуль аўтобус ехаў, яны прымусілі жанчынаў, якія плакалі, гучна сьпяваць песьню "В траве сидел кузнечик". Мужчынаў, якія ляжалі адзін на адным, зьбітыя і ў самых нязручных паставах, прымушалі падпяваць. Нам немагчыма было нават дыхаць. Яны пачалі скакаць па людзях, ляжачых ў праходзе аўтобуса "ПАЗ". Тых, хто ня мог сьпяваць, білі дубінкамі. Пасьля ўдару па галаве я на час страціў прытомнасьць. Амапаўцы выцягнулі мяне з гурбы целаў, двое заламалі рукі, а трэці штурхаў у глотку і праварочваў там гумавую дубінку. Адпусьцілі мяне ўжо думаючы, што задушылі, калі я пачаў хрыпець. Мяне білі і катавалі, хаця з маіх словаў ім было вядома, што я зьяўляюся карэспандэнтам газеты "Гражданин і закон". Потым усіх пасадзілі на кукішкі і зноў крычалі, што нас усіх вывязуць за горад і закапаюць. Ад жанчынаў патрабавалі паказваць стрыптыз, самым блатным жаргонам абражалі нас і ўсіх апазі-



 

цыйных палітыкаў. Зьдзекам падвяргалася таксама маладая жанчына Вольга Бар'ялай (26 гадоў). З суправаджальных дакументаў амапаўцам было вядома, што ў яе трое маленькіх дзяцей. Яе кінулі на падлогу, а потым кінулі на яе трох мужчынаў. Білі нагамі па галаве і патрабавалі больш не хадзіць на мітынгі і дэманстрацыі.

Калі я сказаў, што ведаю кагосьці з іх начальства, яны закрычалі, што і Сівакоў для іх ніхто. Яны прызнаюць толькі Лукашэнку. І вось тады я зразумеў, што гэта — фашызм. Гэта банда рэдыцыдвістаў і крымінальнікаў, а чым яны страшныя, вы, як былы камандуючы ўнутранымі войскамі, павінны ўяўляць. Што для мяне было самым жахлівым, дык тое, што сярод іх былі афіцэры. Такія, па загадзе ўсенароднавыбранага, не задумваючыся, маглі закапаць і Захаранку, і Віньнікаву, і Ганчара з Красоўскім. Ды і любога з нас.

Білі нас усіх і пры здачы ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік. Прычым усе, каму мы пра гэта ні заяўлялі, толькі пасьміхаліся і да ўвагі не прымалі. Нават судзьдзя Трубнікаў, які разглядаў маю справу.

Прабачце, што пішу са спазьненьнем, бо толькі што выйшаў з турмы. Усіх мітынгаваўшых з з бачнымі пазнакамі пабояў пастараліся схаваць ад грамадзкасьці на 3-15 сутак. Судзілі іх за 5 хвілінаў кожнага "самым гуманным і справядлівым судом" без адвакатаў, абароны і іншых "залішніх" фармальнасьцяў. Задумайцеся, Юры Леанідавіч, ці хацелі б вы апынуцца на маім месцы? Скажу, што хоць як афіцэры мы заканчвалі розныя акадэміі і шляхі нашыя не перакрыжоўваліся, аднак дзеяньнямі сваіх падначаленых вы прынізілі, пастараліся растаптаць ува мне і ў іншых затрыманых грамадзянаў Рэспублікі Беларусь чалавечую годнасьць.

Усе пацярпелыя зьвярнуліся ў пракуратуру, зьнялі пабоі ў судмедэкспертызе, зьвярнуліся ў розныя праваабарончыя арганізацыі і Камісію па катаваньнях пры ААН.

Усе мы патрабуем:

1. Прызначыць службовае расьсьледваньне і выявіць канкрэтных выканаўцаў катаваньняў і зьдзекаў пры перавозцы затрыманых з Партызанскага ды іншых РАУС у сьпецпрыёмнік ноччу і раніцай 18 кастрычніка 1999 году. Мы гатовыя ўдзельнічаць у сьледчым эксьперыменце і прысутнічаць пры апазнаньні.

2. Спыніць у войсках палітыку ўседазволеньня і вымуштроўваньня сьпецпадразьдзяленьняў дзеля разгону дэманстрацыяў.

3. Патрабуем, каб вы знайшлі ў сабе сьмеласьць і падалі ў адстаўку, улічваючы тое, што не прадухілілі масавага пабоішча. Патрабуем засьцерагчы нас ад перасьледу з боку вашых карных органаў і сьпецслужбаў.

4. Паведаміць грамадзкасьці і пацярпелым пра вынікі праведзенай праверкі і пра меры, прынятыя да злачынцаў у пагонах.

**Уладзімір ЧАРНОЎ**

*Ліст таксама падпісалі іншыя пацярпелыя ад уладаў 18 кастрычніка 1999 году ў Мінску падчас Маршу Свабоды.*

**Ад рэдакцыі:** адказ на свой ліст У.Чарноў пакуль не атрымаў...

# Такія розныя сьвяты,

## альбо Каму — плошча Незалежнасьці, а каму — Курапаты...

Мы жывем у краіне абсурду...

Толькі ў Беларусі, у адзінай з постсавецкіх дзяржаваў дзень кастрычніцкага перавароту, што адбыўся ў Расіі ў 1917-ым годзе, паводле загаду А.Лукашэнкі адзначаецца як дзяржаўнае сьвята. І разам з тым Дзень памяці продкаў "Дзяды", які беларусы традыцыйна адзначаюць 2 лістапада, той самы Лукашэнка выкрасьліў з ліку дзяржаўных сьвятаў. Аднак здаровая жыцьцёвая логіка заўсёды перамагае: сапраўды народнае сьвята адзначаць не забароніш, а сьвята прыдуманае адзначаць не прымусіш...



Так было і сёлета. Заяўку на правядзеньне шэсьця і мітынгу, прысьвечаных "Дзядам", пададзеную апазіцыйнымі арганізацыямі, Мінгарвыканкам адхіліў, правядзеньне шэсьця забараніў, дазволіўшы толькі мітынг у вядомым усяму сьвету ўрочышчы Курапаты, дзе ў 30-я гады бальшавікі праводзілі масавыя расстрэлы гэтакзваных "ворагаў народу". Затое на 7 лістапада той жа Мінгарвыканкам дазволіў правесьці шэсьце па праспекце Скарыны ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Незалежнасьці і мітынг на апошняй.

Вы зьдзівіцеся, але ўсё было "законна". Паводле незабывальнага дэкрэту Лукашэнкі "Аб некаторых мерах па папярэджаньні надзвычайных здарэньняў пры правядзеньні масавых мерапрыемстваў" дзяржаўным органам дазволена тое, за што апазіцыянераў штрафуюць і арыштоўваюць: правядзеньне сваіх акцыяў у непасрэднай блізкасьці ад станцыяў метро, з перакрыцьцём руху транспарту і г.д. На гэты раз было відавочна, што адзначаючы на "высокім" дзяржаўным узроўні дзень кастрычніцкага перавароту і дазваляючы шэсьце і мітынг у самым цэнтры Мінску, улады ставяць сабе за мэту "пераплюнуць" нядаўні Марш Свабоды апазіцыі. Але нягледзячы на тое, што на прадпрыемствах і ў арганізацыях сталіцы Беларусі загадзя былі складзеныя сьпісы "удзельнікаў мітынгу", што ім былі паабяцаныя выхадныя і прэміяльныя, сьвята не ўдалося. З поснымі тварамі, на якіх чыталася адное жаданьне: "хутчэй бы ўсё гэта скончылася", людзі прайшлі па праспекце, прычым колькасьць іх, у адрозьненьне ад Маршу Свабоды, увесь час скарачалася, праслухалі зварот Лукашэнкі да народу ў выкананьні лідэра камуністаў тав. Чыкіна і хуценька разышліся... Асобна варта сказаць пра паводзіны мінскіх міліцыянтаў у гэты дзень. Яны былі ўзбуджаныя і вясёлыя і ўсяляк дэманстравалі сваю еднасьць з "народам", падбадзёрваючы яго. Граў міліцэйскі аркестр... Аднак падыходы да прэзідэнцкай адміністрацыі і на гэты раз былі ачэпленыя. Незразумела, праўда, чаму: свае ж сабраліся...

Расказваючы спачатку пра "сьвяткаваньне" 7 лістапада, мы крыху парушылі храналогію: "Дзяды" адбываліся раней — 31 кастрычніка. На гэтае сьвята людзі зьбіраліся не па прымусу, а па загадзе сэрца. І гэта не высокія словы, а самая што ні на ёсьць праўда. Тут наадварот рызыкавалі нятыя, хто не прыйшоў, а тыя, хто прыйшоў. Месцы збору дэманстрантаў — плошча Якуба Коласа і раён Акадэміі навук — былі напоўненыя міліцыянтамі. Арышты патэнцыйных дэманстрантаў пачаліся амаль адразу. Жорстка дзейнічалі міліцыянты і супраць журналістаў. Каля плошчы Якуба Коласа ў карэспандэнта польскай "Газеты выборчай" Роберта Кавалеўскага была адабраная фотаплёнка — ён сфатаграфаваў, як міліцыянты затрымлівалі жанчыну. А каля Акадэміі навук пацярпелі журналісты з маскоўскай тэлекампаніі "ТВ-Цэнтр", у якіх міліцыянты адабралі кінакамеру...

Сёлетнія "Дзяды" па многіх прычынах былі не такімі шматлюднымі, як звычайна. Аднак пад пільным наглядам міліцэйскіх тэлекамераў людзі ўсё ж прайшлі да месца мітынгу. Удзельнікі сьвяткаваньня ўсклалі кветкі да магілаў вядомых дзеячаў беларускай культуры на Маскоўскіх могілках сталіцы і правялі кароткі мітынг у Курапатах. Сьвяткаваньне скончылася традыцыйнымі арыштамі. Было затрымана каля дзесяці чалавек...

Вось такімі абсалютна рознымі атрымаліся гэтыя два сьвяты, блізкія па часе. Інакш і не магло быць у краіне, дзе абсурд узьведзены ў ранг дзяржаўнай палітыкі, дзе некаму хочацца адзінаўладна ўстанаўліваць, якія сьвяты адзначаць народу, што і каго памятаць...

**А. ЧАС**





 

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*1 лістапада* рашэньнем Мінгарвыканкаму былі скасаваныя дамовы на арэнду плошчаў у мінскім метрапалітэне. Скасаваньне дамоваў было праведзена з парушэньнем устаноўленага парадку. Сваім рашэньнем ўлады пазбавілі працы каля чатырох тысячаў чалавек — прадпрымальнікаў і асобаў, якія працуюць па найме. Для абароны сваіх правоў прадпрымальнікі і наёмныя работнікі, якія гандлявалі на станцыях метрапалітэну і ў падземных пераходах, стварылі першасную суполку Свабоднага прафсаюзу. Раніцай 4 лістапада каля 30 прадпрымальнікаў і наёмных работнікаў (пераважна жанчыны) сабраліся на плошчы Незалежнасьці, з плошчы яны накіраваліся да офісу Беларускай арганізацыі працоўных жанчынаў, які знаходзіцца на плошчы Свабоды. Міліцыя не стварала перашкодаў шэсьцю, абмежаваўшыся назіраньнем.

*1 лістапада* яшчэ на месяц працягнута ўтрыманьне пад вартай у сьледчым ізалятары ГУУС Мінгарвыканкаму былога старшыні Савета Міністраў Беларусі Міхаіла Чыгіра. М.Чыгір быў арыштаваны 30 красавіка 1999 г. падчас правядзеньня кампаніі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, абвешчанай Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га скліканьня, у якіх ён браў удзел у якасьці прэтэндэнта на пасаду кіраўніка дзяржавы.

*5 лістапада* на плошчы Бангалор у Мінску Аб'яднаная грамадзянская партыя і Беларускі народны фронт правялі пікет супраць аб'яднаньня Беларусі з Расіяй.

*7 лістапада* ў пасёлку Пагранічны Гродзенскай вобласьці абвясьціў галадоўку сьвятар Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Айцец Ян. Рашэньне сьвятара зьвязанае з тым, што ўлады адмаўляюць у рэгістрацыі і выдзяленьні ўчастка пад будаўніцтва царквы. Сьвятар плануе працягваць галадоўку да таго часу, пакуль улады не зарэгіструюць прыход і ня выдзеляць участак для будаўніцтва царквы ў пасёлку Пагранічны. Тым самым парушаны арт. 16 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім сказана: "Усе рэлігіі і веравызнаньні роўныя перад законам".

*8 лістапада* ў гарадзкім судзе Мінску разгледжаная скарга рэдакцыі газеты "Навіны" і журналіста Сяргея Аніські на рашэньне суда Маскоўскага раёну сталіцы. Нагадаем, што 24 верасьня суд Маскоўскага раёну задаволіў іск па абароне гонару і годнасьці дзяржаўнага сакратара Савета Бесьпекі Беларусі Віктара Шэймана і абавязаў "Навіны" апублікаваць абвяржэньне і выплаціць 10 мільярдаў беларускіх рублёў, а журналісту — 5 мільярдаў кампенсацыі за маральную шкоду, якая нібыта была нанесеная В.Шэйману ў артыкуле "Хто ў церамочках жыве?", прысьвечанаму дому сям'і В.Шэймана ў в.Падліпкі. Судовая калегія гарсуда ў складзе Іны Яблыкавай, Галіны Глухоўскай, Алены Дулуб разгледзела скаргу рэдакцыі і журналіста. Сяргей Аніська абвергнуў сьцьвярджэньне прадстаўніка В.Шэймана ў судзе пра тое, што артыкул паўплываў на здароўе маці дзяржсакратара і яна была шпіталізаваная. С.Аніська прадставіў зьвесткі аб іншым паходжаньні хваробы. Журналіст таксама зьвярнуў увагу суда на памеры сумы зыску, якая складае 45 тысяч даляраў ЗША. Выслухаўшы ўсе аргументы, судовая калегія не знайшла падставаў дзеля адмены рашэньня суда Маскоўскага раёну і пакінула яго ў сіле, не задаволіўшы скаргу. Рэдакцыя газеты "Навіны" мае намер абскардзіць і гэтае рашэньне Мінскага гарсуда, але ўлады фактычна дасягнулі мэты — газета "Навіны" не выходзіць у сьвет.

*10 лістапада* ў Беларусь прыбыла ўрадавая дэлегацыя ЗША на чале з сакратаром Дзяржэпартаменту ЗША па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Гаральдам Коў. Прадстаўнікі дэлегацыі прынялі ўдзел у міжнароднай канферэнцыі ў Раўбічах (пад Мінскам) "Эфектыўнасьць аказаньня юрыдычнай дапамогі і гарантыі абароны юрыстаў", правялі сустрэчы з прадстаўнікамі Міністэрства замежных справаў РБ, Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ, лідэрамі апазіцыі, праваабарончымі арганізацыямі і сем'ямі палітзьняволеных.

*11 лістапада* скончыўся тэрмін зьняволеньня Васіля Старавойтава - двойчы Героя сацыялістычнай працы, кіраўніка самай вядомай гаспадаркі савецкай Беларусі — калгаса "Расьсьвет", якога міжнародныя арганізацыі далучылі да беларускіх вязьняў сумленьня. Справа Васіля Старавойтава пачалася восеньню 1997 года пасьля забойства старшыні Дзяржкантролю па Магілёву і Магілёўскай вобласьці Яўгена Мікалуцкага. Спачатку Васіля Старавойтва вызвалілі ад займаемай пасады і забаранілі пакідаць межы гаспадаркі. У лістападзе 1997 году Васіль Старавойтаў і міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў былі арыштаваныя. Арышты наўпрост зьвязваліся з забойствам Я.Мікалуцкага, іх спрабавалі абвінавачваць ў фінансаваньні і арганізацыі тэракту. Але ў выніку Лявонаву і Старавойтаву прад'явілі стандартнае абвінавачаньне ў перавышэньні службовых паўнамоцтваў і крадзяжы ў буйных памерах. 28 траўня 1999 г. В.Старавойтаў быў асуджаны судом Кіраўскага раёну да двух гадоў пазбаўленьня волі з адбываньнем пакараньня ў калоніі ўзмоцненага рэжыму (УЖ 15/ 8 у горадзе Орша Віцебскай вобласьці) і канфіскацыі маёмасьці.

*10-11 лістапада* адбылася міжнародная канферэнцыя пад назвай "Эфектыўнасьць аказаньня юрыдычнай дапамогі і гарантыі дапамогі юрыстам". Арганізатарамі канферэнцыі выступілі грамадзкія аб'яднаньні "Цэнтр па правах чалавека" і "Прававая дапамога насельніцтву". У працы канферэнцыі прынялі ўдзел вядомыя палітыкі, юрысты, праваабаронцы з ЗША, Беларусі, Англіі, Польшчы, Расіі. Тэма абмеркаваньня асабліва важная для Беларусі, дзе прынцыповыя юрысты і праваабаронцы сутыкаюцца з жорсткім супрацьдзеяньнем з боку ўладаў: адвакаты пазбаўляюцца ліцэнзій (так адбылося з Гары Паганяйлам і Надзеяй Дударавай); у дачыненьні да Веры Страмкоўскай была ўзбуджаная крымінальная справа за тое, што яна падчас суда над Васілём Старавойтавым патрабавала прадставіць рэчавыя доказы (40 пляшак каньяку, канфіскаваныя ў Васіля Старавойтава), хаця закон гарантуе імунітэт абаронцы падчас судовых паседжаньняў. Сакратар Дзяржэпартаменту ЗША па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Гаральд Коў адзначыў, што Дзяржэпартамент ЗША валодае інфармацыяй пра палітычную сі-



туацыю ў Беларусі, у тым ліку і пра сітуацыю з правамі чалавека. Гэтая сітуацыя выклікае ў амерыканцаў сур'ёзную заклапочанасьць. У гэтых умовах, па словах, Г.Коў, Злучаныя Штаты кіруюцца палітыкай "выбарачных кантактаў", а гэта значыць, што ўся эканамічная дапамога, акрамя гуманітарнай і некаторых адукацыйных праграмаў прыпыненая. Г.Коў заявіў, што вяртаньне ў Беларусь пасла ЗША Дэніэла Спекхарда, на жаль, не азначае нармалізацыю адносінаў паміж РБ і ЗША, нармалізацыя не наступіць да таго часу, пакуль урад Беларусі ня зробіць канкрэтныя крокі да ўсталяваньня дэмакратыі і павагі да правоў чалавека. Пад час канферэнцыі з дакладам аб працы Праваабарончага Цэнтру "Вясна" выступіў супрацоўнік "Вясны" В. Стэфановіч.

*11 лістапада* ў Беларусі прайшоў агульнарэспубліканскі папераджальны страйк прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках краіны. Прадпрымальнікі патрабуюць адмены прынятых паводле ўказа А. Лукашэнкі абмежаваньняў на гандаль на рынках. Калі патрабаваньні ня будуць выкананыя, прадпрымальнікі маюць намер пачаць з 1 студзеня бестэрміновы страйк.

*12 лістапада* на плошчы Бангалор у Мінску прайшоў першы пікет з серыі "Інквізіцыя па-беларуску", прысьвечаны фактам зьбіцьця грамадзянаў 17 кастрычніка пасьля заканчэньня акцыі апазіцыі Марш Свабоды.

*12 лістапада* ў суд Цэнтральнага раёну г.Мінску ў якасьці "парушальніка" быў выкліканы старшыня Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі. Яму было прад'яўленае абвінавачаньне па Арт. 172 прым. ч. 2. — "незаконны выраб і распаўсюджаньне друкаванай прадукцыі", г.зн., што бюлетэнь "Права на волю" нібыта выдаваўся накладам больш за 299 асобнікаў, а згодна з беларускім Законам аб друку, такія выданьні павінны быць зарэгістраваныя адпаведным чынам. На судзе А.Бяляцкі здолеў давесьці, што ў пратаколе канфіскацыі, складзеным 4 кастрычніка пасьля вобыску ў офісе "Вясны", не была ўказаная колькасьць канфіскаваных бюлетэняў, што сам пратакол з указаньнем колькасьці быў складзены толькі ў РАУС Цэнтральнага раёну. У выніку суд быў адкладзены.

# Мы можам дапамагчы беларусам зараз...

***Пра сумесную дзейнасьць швецкай арганізацыі Svenska Freds і Праваабарончага Цэнтру «Вясна» ужо згадвалася на старонках нашага бюлетэню. Яшчэ ў траўні было вырашана правесьці сумесны адукацыйны семінар у Беларусі восеньню бягучага году з удзелам прадстаўнікоў рэгіянальных аддзяленьняў Svenska Freds і «Вясны-96», каб наладзіць больш цесныя стасункі ня толькі з цэнтральным офісам Праваабарончага Цэнтру, але і з яго філіямі. Запланаваны семінар адбыўся 6-8 лістапада. Прапанаваная тэма — «Этапы разьвіцьця грамадзкай арганізацыі» — выклікала вялікую зацікаўленасьць яго ўдзельнікаў. Беларускаму боку было чаму павучыцца ў швецкіх калегаў. Нагадаем, што Svenska Freds зьяўляецца старэйшым і самым вялікім у Скандынавіі таварыствам за мір. Яно было заснаванае 116 гадоў назад лаўрэатам Нобелеўскай прэміі К.П.Арнольдсанам. Адным з праектаў, над якім сёньня працуе таварыства, зьяўляецца наладжваньне цесных сувязяў з грамадзкімі арганізацыямі краінаў Усходняй Еўропы (Беларусі і Расіі) з мэтай сумеснай працы дзеля далейшага развіцьця дэмакратыі і супрацоўніцтва гэтых краінаў з Заходняй Еўропай. Сёньняшні наш суразмоўца — кіраўнік «усходняга» праекту Лінда ІССАКСОН.***

***— Спадарыня Линда, распавядзіце, калі ласка, пра дзейнасьць вашай арганізацыі, "накіраваную на Усход".***

— Svenska Freds – міратворчая арганізацыя. Пасьля заканчэньня "халоднай вайны" яна павінна была адаптавацца да новага сьвету. Таму пачаліся розныя праекты з расійскім Камітэтам салдацкіх мацярок. Наша супрацоўніцтва пачалося напачатку чачэнскай вайны. Сэнс гэтай дзейнасьці – падтрымаць тых мудрых жанчын, якія стварылі сваю арганізацыю яшчэ падчас перабудовы і змагаліся за правы сваіх дзяцей. Мы лічым, што гэтая арганізацыя можа ўздзейнічаць на ўлады, бо зьяўляецца важным кампанентам грамадзтва. Яна дапамагае прызыўнікам і іх родным, таму што дзяржава з гэтай задачай не спраўляецца. Svenska Freds не зьяўляецца праваабарончай арганізацыяй, але мы падтрымліваем такія праекты.

***— Што зроблена вашай арганізацыяй у гэтым накірунку?***

— Праект с мацяркамі – гэта перадача вопыту, якім чынам грамадзкая арганізацыя можа ўплываць на ўрад і грамадзтва. Гэта і вопыт у плане фінансаваньня, а таксама пабудове і дзейнасьці арганізацыі. Для гэтага мы і праводзім семінары, на якія запрашаем людзей з многіх гарадоў. Трэба адзначыць, што грамадзкія арганізацыі заўсёды радыя маральнай падтрымцы і дапамозе.

***— Якім чынам адбываецца фінансаваньне праектаў грамадзкіх арганізацыяў у Швецыі?***

— Мы атрымліваем дапамогу ад нашай дзяржавы, але і арганізацыя часткова сама павінна несьці расходы. Што датычыцца праектаў у Беларусі, то дзяржава вырашыла праз дзяржаўны орган Forum Sud амаль цалкам узяць на сябе ўсе расходы. У большасьці гэта праекты дзеля разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці і захаваньня правоў чалавека. Швецкія дзяржаўныя органы вырашылі, што грамадзкія арганізацыі могуць дапамагчы ў гэтым накірунку краінам Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у тым ліку Беларусі.

***— Ці шмат ведаюць у Швецыі пра Беларусь?***

— У Швецыі пра Беларусь ведаюць няшмат – часьцей за ўсё гэта паведамленьні пра строгі дзяржаўны рэжым, які існуе ў вас. Я думаю, што гэта вельмі мала. Кастрычніцкія падзеі ў Беларусі паказалі ў нас, але вельмі коратка і без каментароў. Міністр замежных справаў выказаў сваё стаўленьне да гэтых падзеяў праз прэс-рэліз, але паколькі Швецыя зьяўляецца членам Еўрапейскага Саюзу, то яна дзейнічае праз яго. Швецыя падтрымлівае адмову ў дапамозе рэжыму, усталяваным у Беларусі, на дыпламатычным узроўні, аднак ня лічыць неабходным разрываць гэтыя адносіны цалкам.

Ня так даўно, гэта ўпершыню выйшла кніга на швецкай мове пра Беларусь і беларусаў. Яе аўтар – вядомы журналіст і пісьменьнік Албін Абрахамсан. Так што тым, хто цікавіцца гісторыяй і сёньняшнім становішчам у Беларусі, ужо магчыма пра гэта прачытаць на швецкай мове.

***— Спадарыня Лінда, адкуль асабіста ў вас такая цікавасьць да нашай краіны?***

— Справа ў тым, што калі я вучылася ва ўніверсітэце ў горадзе Упса, то праходзіла курс разьвіцьця краінаў Усходняй Еўропы пасьля распаду Савецкага Саюзу. Я нават напісала курсавую працу пра тое, якім чынам Лукашэнка прыйшоў да ўлады. Падчас працы над гэтай тэмай мяне вельмі зацікавіла Беларусь і тыя падзеі, якія там адбываюцца. Паколькі я ўжо супрацоўнічала з Камітэтам салдацкіх мацярок, то яны мне дапамагалі з матэрыяламі ня толькі пра Расію, але і пра Беларусь. А калі зьявілася магчымасьць супрацоўнічаць з беларускімі арганізацыямі праз Svenska Freds, я вельмі ўпарта старалася дабіцца рэалізацыі гэтага праекту. Я думаю, што мы можам і павінны дапамагчы беларусам зараз, бо потым можа быць позна.

Чыста практычна наша супрацоўніцтва завязалася пасьля таго, як Міраслаў Кобаса (фонд Льва Сапегі – *рэд.*) побываў у Швецыі і выступіў у Forum Sud. Ён назваў мне "Вясну-96" як арганізацыю, з якой можна супрацоўнічаць. Гэтае меркаваньне пацьвердзілася пасьля нашай размовы са старшынёй Праваабрончага Цэнтру Алесем Бяляцкім . Наш праект быў падтрыманы і атрымаў фінансаваньне.

У рамках нашага праекту мы прыязджалі ўжо ў Беларусь мінулай восеньню, прадстаўнікі "Вясны-96" наведалі Швецыю, а зараз правялі сумесны семінар. Плануецца таксама запрасіць прадстаўнікоў беларускіх рэгіянальных аддзяленьняў у Швецыю дзеля сумеснай працы са швецкімі рэгіянальнымі арганізацыямі вясной наступнага году; потым — наведаць некалькі гарадоў Беларусі, дзе працуюць філіі нашай партнёрскай арганізацыі. Планы ёсьць, і мы будзем працаваць дзеля іх ажыцьцяўленьня.

**Падрыхтавала Тацяна РЭВЯКА**

Міхаіл КУКАБАКА

# Накід з натуры

"Вось што значыць дзьве вышэйшыя адукацыі ў параўнаньні з маёй няпоўнай сярэдняй...", — з павагай, хоць і не бяз зайздрасьці, падумаў я, і таксама пайшоў па сваіх справах.

Праз нейкі час мяне выклікалі да начальніка лагеру маёра Далматава.

— Што гэта ты падазрона шмат пісаць пачаў? Скаргі розныя складаеш...

Я прыгадаў Марксіста і з цікавасьцю паглядзеў на начальніка. Паспрабаваў уявіць яго ў форме маёра ЦРУ, але ня ведаў, як гэтая форма выглядае. Потым пачаў перабіраць у памяці свае "скаргі". Так, "Заява архіепіскапу Пермскаму" з просьбай прыслаць сьвятара дзеля выкананьня хрысьціянскіх абрадаў — з пункту гледжаньня канстытуцыі, здаецца, усё законна; ліст чыноўніку па справах веравызнаньня Харчаву з просьбай растлумачыць, як згодна той жа Канстытуцыі ў межах закону ажыцьцявіць права на свабоду сумленьня. Далей. "Наглядная скарга ў Вярхоўны суд" — не супярэчыць Канстытуцыі — дабіваўся справядлівага судовага рашэньня. Ага, забыўся! — я ж пісаў заяву з просьбай 300 маіх рублёў накіраваць у фонд радыё "Свабода", як арганізацыі, "што змагаецца за дэмакратыю, мір і дружбу між народамі". Па гэтай прычыне была ўжо са мною "сур'ёзная" размова. Мяне папярэдзілі: яшчэ адна падобная заява — і я буду пакараны, а мае грошы канфіскуюць у Савецкі фонд міру.

Словам, не адчуваючы небясьпекі, я з цікавасьцю чакаў працягу размовы. Аднак начальнік раптам спытаў:

— А што ў цябе агульнага са зьняволеным Б.? — ён меў на ўвазе Марксіста.

Мне адразу стала холадна і сумна. Не чакаючы адказу маёр працягваў:

.— Ну што ж, паўгодзіка пасядзіш у турме, падумаеш над сваімі паводзінамі, а там вырашым, што з табою рабіць, — і ён націснуў кнопку пад сталом.

Увайшоў наглядчык і павёў мяне ў лагерную турму — дакладна яна называецца ПКТ (памяшканьне камернага тыпу). Мяне штурхнулі ў камеру. Дзьверы зачыніліся. Іржава заскрыгатаў замок. І ўсё сьціхла.

"А ўсёт-кі праўду казаў Марксіст, — падумаў я, азіраючы змрочныя сьцены, — нідзе ад гэтага ЦРУ не схаваешся. Нават у Пермскай вобласьці"...

Гэты выпадак з лагернага жыцьця я вырашыў запісаць. Ня дзеля нашчадкаў, а каб проста паспрабаваць зірнуць на сябе збоку: гэта заўсёды карысна. Свае запісы я паказаў некаторым героям іх.

Філолаг адарваўся ад сваіх пошукаў у галіне французскага фальклёру, прачытаў, усьміхнуўся і сказаў:

— Тут нешта ёсьць.

Шпіён зарагатаў і са шчырай зласьлівасьцю дадаў:

— Так ім і трэба! — ён ненавідзеў усіх марксістаў.

Марксіст быў заняты канспектаваньнем чарговай працы Маркса. Адсунуўшы тоўсты том, ён думліва прачытаў нататкі, сьціпла гасьміхнуўся і без каментароў аддаў мне лісткі.

Другі Марксіст спачатку ўсьміхаўся, потым спахмурнеў і, закончыўшы чытаць, паўтарыў вядомую думку пра шыю рабочага класа, на якой жадаюць пасядзець паны-дэмакраты, уключаючы і мяне.

Пасьля яго я падышоў да нязгаданых тут раней Пісьменьніка і Журналіста, якія пра нешта жвава гутарылі. Пісьменьнік пісаў мелан жалічныя апавяданьні, якія друкаваліся ў тоўстых сібірскіх часопісах. Без сумліву, у аповедах тых была карысьць: той, хто асільваў іх, здаваў своеасаблівы іспыт на мужнасьць і сілу волі. Натуральна, Пісьменьнік апынуўся сярод нас не за свае аповеды, а за абмеркаваньне "чужых" твораў у "цесным" коле.

Пісьменьнік быў дужа высокамаральным чалавекам. Ён прачытаў мае нататкі і строга спытаў:

— Навошта ты гэта напісаў?

— Каб адасласць у "Крокодил", — жартам прызнаўся я.

— Хіба ты не разумееш, што гэтым самым ты выдаеш нашых таварышаў аперслужбе?

Я трохі разгубіўся ад такой ацэнкі і моўчкі падаў лісткі Журналісту. Журналіст таксама быў сур'ёзным чалавекам і да таго ж эканамістам. Неяк у сьпецсховах адной бібліятэкі ён знайшоў ворах розных графікаў і бухгалтарскіх выкладак па сельскай гаспадарцы. Паказаўшы надзвычайную ўседлівасьць, Журналіст напісаў сумны нарыс пра ценявую эканоміку. Гэты нарыс спадабаўся радыё "Свабода" і вельмі не спадабаўся КДБ. Рознасьць густаў Маскоўскі суд ацаніў у шэсьць гадоў і аўтара накіравалі знаёміцца з эканомікай Пермскай вобласьці.

Журналіст панура прачытаў тэкст і прамовіў:

— Напісана сьмешна, аднак Барыс кажа праўду: ты здаеш таварышаў.

— Але ж тут няма прозьвішчаў?!

— А хіба цяжка здагадацца — хто ёсьць хто?

— Але ж тут няма ніякіх таямніцаў, — паспрабаваў я бараніцца.

— А ты ўпэўнены, што *ІМ* вядома ўсё, пра што ты напісаў? — цьвёрда стаяў на сваім Журналіст.

Я ўздыхнуў, моўчкі скруціў лісткі, схаваў іх у поліэтыленавы пакет і засунуў у дзірку ў падлозе. Журналіст і Пісьменьнік працягнулі сваю гутарку.

Аднак праз год я зноў прыгадаў пра свае нататкі і паспрабаваў дапісаць іх.

Ужо была ў разгары перабудова.

Не пасьпеў я напісаць і пару лісткоў, як прыйшлі з вобыскам. Нататкі адразу ж канфіскавалі як "антысавецкія па зьмесьце". Я не супакоіўся і накіраваўся ў аперчастку.

— Растлумачце мне, калі ласка, у чым тут крымінал? — ветліва спытаў я ў капітана Мардоўскага ўпраўленьня КДБ Яшына.

— Ды не, здаецца, тут няма нічога асаблівага...

— Дык чаму ж нататкі канфіскавалі?

— Ведаеце, мы пакуль яшчэ да гэтага ня звыкліся, не перабудаваліся, — шчыра прызнаўся кэдэбіст.

— Ну дык прывыкайце, — параіў я яму.

Але дапісваць свае нататкі ня стаў.

*1987 г.*

*(Працяг згадак палітвязьня савецкіх часоў М.Кукабакі. Пачатак у № 43-44)*




**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, англійскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:Viasna96@open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"*